# 2–я Гадаўшчына Пасьвячэньня Храму ў Мэльбурне



*Мэльбурн, 20-га лістапада, 1983 г. Малебен з нагоды 2-гой гадаўшчыны пасьвячэньня Храму.*
*Зълева направа: а. Уладзімір Салыга, УАПЦ; а.Аляксандар Кулакоўскі, Настаяцель парафіі ў Мэльбурне; і а.Аўген Сітнік, БАПЦ.*

# Вітаем Усіх Нашых Суродзічаў з Вялікім Сакавіковым Сьвятам Беларускай Дзяржаўнасьці й Незалежнасьці

# Выпісвайце й Пашырайце Ангельска-Беларускую Газэту „Беларускі ЧАС"

# Сьв. Пам. Мікалай Гумен



*Мікалай Гумен*

Мікалай Гумен нарадзіўся 10-га сьнежня 1906 году ў сяле Ліново Пружанскага павету на Палесі. У 1939 годзе быў вызвалены саветамі ў Сібір. Працаваў ён вельмі цяжка й мала давалі есьці. Ён быў запісаны польскім грамадзянінам і калі выбухла нямецка-савецкая вайна, то ў 1941 годзе генералу Сікорскаму ўдалося арганізаваць з польскіх грамадзян у Сібіры польскую армію, якую пазьней вывязьлі праз Іран у Палястыну. Там яны некі час адпачывалі, бо былі вельмі слабыя. Потым кінулі іх на паўдзённы фронт у Італію. Мікалай быў у войску плютановым. Па заканчэньню вайны ён быў здэмабілізаваны й пражываў у Англіі. У 1957 годзе пераехаў у Амэрыку, у Кліўленд, Огаё. Тут ён быў выбраны старшынёю Парафіяльнае Рады. У гэты час пачалі будаваць царкву, якую закончылі ў 1959 годзе. Пазьней ён выў выбраны парафіяльным скарбнікам. Мікалай быў шчырым праваслаўным беларусам, карыстаўся добраю пашанаю ў людзей. Пазьней ажаніўся з удавою, Марыяй Трайцяк. Аднойчы Мікалай меў няшчасны выпадак – упаў і зламаў косьць у бядры. З таго часу пачаліся ягоныя фізычныя немачы, якія працягваліся каля сямі год. У веку 77 г. адышоў на вечны супакой дня 28-га сьнежаня 1983 году. Вечная яму памяць!

## AT THE POLISH-AMERICAN ARTISTS ASSOCIATION

On January 15, 1984, Dr. R. Horoshko, publisher of this newspaper, was invited to speak and to paricipate as a panelist in a discussion organized by the Polish-American Artists Assoc. at the Eastside International Community Center in New York City. The topic of discussion was "On the doorstep of 1984" which covered most items of national intere st to Byelorussians. Other speakers included: Dr. I. Varga, Chairman of the World Federation of Jurists; Dr. W. Bingzhoeng, Chairman of the Chinese Alliance for Democracy; Mr. A. Eiva, Director of the American Afghan Action; and Mr. A. Pruszynski, Publisher of the Polish Express in Toronto.

# Яшчэ аб Няладах у БАПЦ

*(працяг з 5-й бачынкі)*

і што імі было ўчынена ў 1949 г.? Як на гэта рэагуюць тыя, што цяпер разбурваюць зробленае (адноўленую БАПЦ)? Для чаго тады працавала й працуе нашае ахвярнае духавенства, а некаторыя зь іх ужо адыйшлі ў вечнасьць? Яшчэ-ж нядаўна перад трымя гадамі, праяў любові нашых вернікаў да свае Роднае Маці Царквы існаваў. Чаму-ж так хутка зьнікае людзкая памяць? Тады крычэлі для Царквы падтрымку, а цяпер – разбур, зьнішч Яе. Чаму Царква сталася зьненавіджанаю для нашае інтэлігэнцыі якая далучылася да разбуральнікаў? Іншыя прыглядаюцца й сталіся пасыўнымі. Дзе падзеліся гадунцы гімназіі Я. Купала, студэнты Лювэну, Лёндану й кончаўшыя на эміграцыі вышэйшыя школы?

Шкоднаю была акцыя падзелу на ўгрупаваньні ў беларускім грамадзкім жыцьці, што балюча адчуваецца й цяпер, бо падзел здрадзіў прыродную еднасьць Беларусаў, стаўся зародкам разбуральнае дзейнасьці ў БАПЦ.

І ў Царкве змаганьне паміж вернікамі праводзіцца тым самым мэтадам як яно й праводзілася ў грамадзкім беларускім жыцьці з тою толькі розьніцаю, што ў рэлігійным змаганьні прымаюць удзел і тыя, што наагул ня вераць у Хрыстовую Навуку.

Кожнаму з нас ведама, як дзівяцца з нас чужынцы ды ківаюць галавамі. Насьмяхаюцца з задаволеным уражаньнем, а наша цела ў змаганьні пакрываецца ранамі. Ня відаць пакуль што й канкрэтнага заканчэньня таго жахлівага стану, бо не зьнікае людзкая ўпартасьць.

А тыя, што запраўды шчыра вераць у Бога, ведаюць якое вялікае значаньне мае родная незалежная Царква, не перастаюць надзеяцца на Божую дапамогу, бо адчуваюць, што ўжо ёсьць адзнакі лепшага і ў некаторых адчыняюцца вочы каб бачыць і зразумець хто ёсьць запраўдным віноўнікам няладаў у БАПЦаркве.



## Выйшаў „ГОЛАС ЦАРКВЫ"

У красавіку 1984 году выйшаў 55-ы нумар *Голасу Царквы*, што выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Апрача чыста рэлігійных артыкулаў, знаходзім артыкулы аб закалоце ў БАПЦ і пра надыходзячы 3-ці Сабор БАПЦ. Гэты нумар Голасу Царквы друкаваўся ў нова-набытай царкоўнай друкарні.

## THE 25-th ANNIVERSARY JOURNAL

The Captive Nations Committee of New York, headed by Mr. Horst Uhlich, published an anniversary journal marking 25 years of the Captive Nations Law in the U.S. The Journal contains articles and advertising by a number of the Captive Nations.

A two-page article about Byelorussia was written by Dr. Vitaut Kipel. The article itself is adequate despite some inaccuracies pertaining to Byelorussia's early history. However, Dr. Kipel made a very serious error in including a map of the Soviet Byelorussia. This map appers to be the same one he used in the programs of the Byelorussian Festival in New Jersey and for which he was severely criticized at that time. East Germans were also unhappy with Dr. Kipel's map because he labeled East Prussia as "R.S.F.S.R."

## 25-ці ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАСЛАЎНАГА ПРЫХОДУ Ў ЧЫКАГА

У нядзелю 20-га лістапада 1983 году Беларуская Праваслаўная Царква ў Чыкага ўрачыста сьвяткавала свой 25-ці гадовы юбілей.

Дзеля недастатку мейсца, гэтая ўрачыстасьць будзе апісана ў наступным нумары.

АЎГЕН КАЛУБОВІЧ

# НА КРЫЖОВАЙ ДАРОЗЕ

*(ПРАЦЯГ З 44–ГА НУМАРУ)*

## Давай, давай!..

Вязьняў Вішарскіх канцэнтрацыйных лягероў ганяюць на розныя працы, але галоўнае іхнае заданьне – будова двух „гигантов” 1-ай пяцігодкі – Краснавішарскага папярова-цэлюлознага камбінату й Беразьнікоўскага хэмічнага камбінату. Дадаткова: будова двух местаў пры іх – Краснавішарска й Беразьнікоў. Папярова-цэлюлозны камбінат і Краснавішарск будуюць вязьні 1-га аддзяленьня Вішарскіх лягероў. 2-ое аддзяленьне (а фактычна Ўсольскі „лагпункт”) будуе Беразьнікоўскі хэмічны камбінат і Беразьнікі.

Каля станцыі Ўсольле паміж чыгуначным палатном і ракою Кама колькі квадратных кілямэтраў займалі спрадвечныя дзірваны, балоты й лес. Гэтае масца, паміж двума транспартнымі шляхамі – чыгуначным і водным – было выбрана пад будову камбінату. Лес трэба было зваліць, балоты й нізіны засыпаць зямлёю, усю паверхню зраўнаць. Праца пачалася ад восені 1929 г. Лес пілавалі ручнымі піламі. Зямлю капалі рыдлёўкамі. Вазілі яе тачкамі, насілі насілкамі й нат мяшкамі. Час быў абмежаваны плянам. Каб укласьціся ў яго, вязьняў падганялі:

– Давай, давай!..

Калі нас сюды прывезьлі, на ўжо зраўнаным грунце мы пачалі капаць катлаваны для фундамэнтаў і будаваць гмахі камбінату. І тут абмежаваны час, і тут падганяюць:

– Давай, давай!..

На другім (усходнім) баку чыгуначнага палатна перад нашым этапам стаяў густы хваёвы лес. У ім нашымі папярэднікамі збудаваны толькі адзін будынак – вялізная каменіца Бальнічнага Гарадка. Тут мы маем валіць дрэвы, рашчышчаць месца пад вуліцы й плошчы, будаваць мураваныя, пераважна 2-ух і 3-охпавярховыя, дамы новага места Беразьнікі. Калі камбінат будзе пабудаваны, для працаўнікоў ягоных патрэбныя будуць кватэры. Таму й тут пакрыкваюць:

– Давай, давай!..

У раёне Усольля-Салікамска пад зямлёю агромністыя паклады сталовай, каліевай і магніевай соляў. Ад XVI ст. на саляных варніцах тут здабываецца сталовая соль („пермянка”). Цяпер, каб пераапрацоўваць калійныя солі, мы будуем хэмічны камбінат. Хоць ён яшчэ толькі будуецца, капальні ўжо адкрытыя, і вязьні нашага „лагпункту” капаюць у іх соль. І тут, пад зямлёю, таксама падсцёбваюць:

– Давай, давай!..

На Ўсольскім „лагпункце” УРЧ сфармавала з нас сталыя брыгады. Паза выпадкамі, калі хтосьці ў брыгадзе памёр ці кудысь выбыў, а яго замянілі іншым, брыгада больш-менш сталая. Як правіла, у ёй 30 вязьняў – тры дзясяткі для кухоннага катла.

У брыгадзе, да каторай належу я – каля 20-ёх беларусаў; за выключэньнем Юрэвіча, усе з нашага этапу. Настаўнік Юрэвіч быў з Аршанскага этапу. Увесну 1930 году „раскулачылі” сям'ю ягонае сястры. Перад вывазам яе на поўнач ён паехаў разьвітацца зь ёю й забраў да сябе 5-цігадовую пляменьніцу. Пашкадаваў малую, хацеў выратаваць яе ад няминучае гібелі ў ссылцы. Ды хутка „кулацкае дзіця” ў яго адабралі, а самога „за сувязь з кулакамі” звольнілі з працы й арыштавалі. Маскоўская „тройка” абвінаваціла яго ў „антысавецкай агітацыі” й, паводля п.10, арт.58 КК РСФСР, засудзіла на 3 гады канцэнтрацыйных лягероў.

Зь небеларусаў – гэта „буржуазныя нацыяналістыя”:

Украінскі настаўнік Анатоль Кахоўскі. Ня думаю, што ён перад лягерам дзесь друкаваўся й ведамы на Ўкраіне. Але цікавы паэта-гумарысты, які для ўжытку ў вузкім коле сяброў пiша вершы, пераважна на розныя выпадкі зь лягернага жыцьця. Засуджаны быў як „пятлюравец”, хоць пятлюраўцам ніколі ня быў. У 1918 годзе зусім выпадкова з С. Пятлюрам кароткі час сядзеў у ваднэй камэры Кіеўскай турмы. Пазьней меў неасьцярожнасьць пахваліцца гэтым. Хтось данёс у ГПУ. Гэта было досыць для арышту.

Двох каўказцаў – чэркес Тліпіеў Алі й азэрбайджанец Джамалбэкаў Ізмаілбэк. Апошні (сацыял-дэмакрат з царскіх часоў і сябра С. Арджанікідзе) перад арыштам займаў становішча сакратара Саўнаркому Азэрбайджанскай ССР.

Казанскі татарын, бухгальтар з прафэсіі, Мустаф'еў.

Зь іншых лепей запомніліся –

Стары немец Карл, зь нямецкага сяла ў Нараўлянскім раёне, БССР. Усё ягонае сяло адмовілася йсьці ў калгас, і іх усіх паразганялі.

Малады заўральскі казак з Кургана, Валянтын Кучын, які, як і А. Кахоўскі й наш А. Лантас – паэта.

Брыгадзіраў мы мелі колькі. Сьпярша кароткі час – „урку”, каторы бясконца пакрykваў „Давай, давай!”, але нормы працы ў яго мы выканаць не маглі. Яго зьнялі й замянілі другім „уркам”. Гэны таксама доўга не быў – пракраўся: у часе працы яго зславілі „на гарачым учынку”, прадаваў вольным крадзеныя ў лягеры рэчы. Цяпер трэцім ужо даўжэйшы час маем былога „кулака” з-пад Менску, Драздa. Ён кожнага з нас, незалежна ад веку, заве „сынок”, а мы яго – „бацька”.

Сям'ю „бацькі” „раскулачылі” ўвосені 1929 году. У Менску, разам зь іншымі „раскулачанымі”, заладавалі ў тавaрны ашалён і праз Маскву павезьлі на поўнач. У Маскве яго і шмат іншых мужчынаў з ашалёну зьнялі, із сем'ямі разлучылі, пагналі ў Бутырскую турму, а стуль – у Вішлаг. Куды вывязьлі сям'ю ён ня ведае, хоць і перакананы, што ў Котлас. А куды далей із Котласу й ці разам уся сям'я, ці ўсе здаровыя й жывыя – таксама ня ведае. Ня мае ні іхнага адрасу, ні лістоў ад іх. Гэтак-жа, як і сям'я ягоная нічога ня ведае пра яго.

Напачатку „бацька” працаваў на „общих работах”. А калі ўжо працаваць быў няздольны – стары, хваравіты, спрацаваны – яго маглі яшчэ выкарыстаць або ў інваліднай роце (была такая на „лагпункце”), або на брыгадзірстве. Брыгадзіраў якраз не хапала, і іх прызначалі ня толькі з „уркаў”, але й зь іншых, ужо бывалых лягернікаў, гаспадарліва-кемлівых людзей. Плян-жа будаўніцтва выконваць трэба было!

Брыгадзір ён добры. Стала рупіцца дастаць для брыгады выгаднейшую працу. Умее „зарядить туфту” – здаць дзясятніку працу так, каб было болей, чымся эроблена: із 50–75% зрабіць усе 100. Хоць і далёка не заўсёды гэта яму ўдаецца, мы бачым, як ён стараецца, каб непасільны воз нашае працы, разьлічаны не на чалавека (нават дужага, здаровага й сытага), а на каня ці вала, быў памажлівасьці лягчэйшы. І як былы зарадны селянін-гаспадар, ён лепей ад іншых ведае, як гэта зрабіць.

Ён ня лаецца, ня курыць і казаў, што ня п'е. У хвіліны найбольшага суму па сям'і, па родным краі, калі дужа цяжка на сэрцы, любіць паціху, пра сябе, папяваць песьню. Нязьменна – адну й тую-ж („Чаму-ж мне ня пець?”) і нязьменна – толькі першыя ейныя звароткі.

Наша брыгада працуе на аб'ектах газгэнэратара, ЦЭЦ, газгольдэра, заводаў азотнай і аміячнай кіслаты, места Беразьнікі. Мы капаем катлаваны, катаем тачкі; выладоўваем з вагонаў цэглу, цэмэнт, дрэва; мяшаем рыдлёўкаю цэмэнтную рошчыну й „окарёнками” разносім яе да арматуршчыкаў; цягаем на кожны паверх дошкі, брусы, цэглу; лес пілуем й пні выкарчоўваем на будове новага места... Усё гэта робім блізу голымі рукамі, без аніякае тэхнікі, быццам у дагістарычным часе. Нам выдаюць адно рыдлёўку, пілу, „казу” й некаторыя іншыя прымітыўныя інструмэнты.

Аднак гэта ня будова эгіпэцкімі рабамі пірaміды Хэопса ў XXVIII стагодзьдзі перад Народзінамі Хрыста. Гэта 48 стагодзьдзяў пазьней маскоўскія рабы тэй-жа „тэхнікай” будуюць адну із камуністычных пірамід 1-ай пяцігодкі.

Шансаў выжыць тут мала. Невялікія шансы маюць маладыя, здаровыя. Усе старэйшыя, із слабым здароўем, ці зь вялікім тэрмінам – ніхто зь іх адсюль ня выйдзе. Іхная дарога, калі ня сёньня, то заўтра – у яму за лягерам.

Але тымчасам неяк працуем, нібы аўтаматы з накручанай спружынаю. 6 дзён у тыдзень па 10 гадзінаў у дзень. Сюды не ўваходзяць 2 гадзіны дарогі ў два бакі. Іншым разам самі дзівімся, адкуль бяруцца яшчэ сілы пры сталым голадзе й фізычным вычарпаньні. Як на крыжовай дарозе – гнемся пад цяжарам свайго крыжа, падаем; адны падымаюцца й ідуць далей, другія – гінуць.

## На катлаване

Праглынуўшы „баланду”, мы пакідаем барак і займаем чаргу каля лягернай брамы. Марознае перадраньне яшчэ ў вабдымках начы. Калючы вецер ірве полы бушлатаў, прабіваецца да цела. Каб ня мерзнуць, мы памалу варушымся, пастукваем абцасам па абцасу ды час-ад-часу пасоўваемся наперад.

„Развод” ужо пачаўся: праз адчыненую браму калёны брыгадаў выходзяць на працу. Калі чарга дайшла да нас, „бацька” называе „дзяжкому” сваё прозьвішча й колькасьць вязьняў у брыгадзе. Той прапускае нас у браму, пералічвае й запісвае ў свой „табель”. За дротам брыгаду прымае канвой.

Гадзіна часу дарогі, і мы на месцы працы пры будове газгэнэратара. Найперш нас вядуць да складу інструмэнтаў. Перад складам гарыць невялікае вогнішча, каля якога, як і заўсёды, з привeтлівай усьмешкаю сядзіць і грэецца маладая вольнанаёмная дзяўчына-комі – загадчыца складу. Яна хутка падымаецца, адмыкае склад і выдае нам нашы інструмэнты – „канцелярские принадлежности”.

Першы раз гэтыя інструмэнты нам выдаваў дзесятнік аб'екту. У мінулым – адзін з тых, хто ў Кастрычніцкую рэвалюцыю крычаў „Далой грамотных!”; а цяпер тут – як „социально-близкий” не далюблівае „каэраў” і „гнилую” інтэлігэнцыю. Ён рашчыніў дзьверы складу й ні то жартам, ні то з насьмешкаю абвесьціў: „Здесь ваши канцелярские принадлежности”. Тады пальцам паказаў на рыдлёўку й назваў: „Это ручка для писания”. Пасьля „ручки” кожны з нас атрымаў „перья” (па два жалезныя кліны), „чернильницу” (вядро – адно на колькі асобаў), „карандаш” (лом)... і, „автомобиль” (тачку) „для служебного пользования”. Калі мы „канцелярские принадлежности” паўкладалі ў свае „автомобили” й намерыліся „ад'яжджаць”, ён дакінуў: „А бумагу, на которой вы будете расписываться, вам выдаст бригадир”.

Рушымся із усім гэтым набыткам да свайго катлавану. Тут кожнаму „бацька” выдае „бумагу” – асобную дзялянку паверхні зямлі. Брыгада расьцягваецца па лініі катлавану й пачынае „канцелярскими принадлежностями” „расписываться”. Дзённая норма пры капаньні зямлі – ад 2-ух да 6-ці кубамэтраў. Колькасьць кубамэтраў залежыць ад пары году, характару грунту, глыбіні катлавану й адлегласьці для адвозкі зямлі тачкаю. На нашым катлаване цяпер, узімку, норма -2 кубамэтры. Гэта ўважаецца горш, чымся 6 кубамэтраў мяккага грунту ўлетку. Таму ня так-та й лёгка тут „расписываться”.

Зямля мёрзлая. У дадатак – перамяшаная з каменьнем і дрэвам, умёрзлымі ў грунт. Рыдлёўка ў яе ня лезе. Ёю можна адно зьбіраць адбітую ці адкрышаную іншымі інструмэнтамі зямлю й кідаць у тачку. Капаць зямлю трэба чымсь іншым.

Бяру жалезны клін і кувалду. Станаўлюся на калені й прыстаўляю клін да зямлі. Левай рукою прытрымліваю яго, а правай зьлёгку б'ю кувалдаю. Калі клін пасьля колькіх удараў крышачку ўгрызься ў зямлю й без мае дапамогі трымаецца, я ўстаю і з усяе сілы б'ю па ім каб ён далей лез у зямлю. А ён, нягоднік, ад моцнага ўдару кувалды, нібы ад гумы, падскаквае ўгару й валіцца на бок. Я спрабую ўсё нанова. Пасьля колькіх такіх спробаў клін адламвае якісь кавалачак зямлі. Кліны, трэба заўважыць – тупыя, і іх ня вострaць. Часам завостраны іхны канец крышыцца, ламаецца ці гнецца. Тады працаваць зь ім амаль немажліва.

Бяру кірку. З усяго размаху б'ю ейнай дзюбаю па зямлі. Яшчэ якіясь крошкі адбіваюцца. Але біць трэба моцна... Ды вось у ёй адламалася ручка. Мушу йсьці да „бацькі”, прасіць яго замяніць зламаную кірку на цэлую.

Аднак толькі такімі мэтадамі за дзень працы я ня выберу й аднаго кубамэтру зямлі. З нашай тэхнікай патрэбны бальш эфэктыўныя мэтады й спосабы. І мы ўжо іх ведаем.

Мы раскладаем па лініі катлавану колькі вогнішчаў. Над імі падвешваем вёдры з вадою і грэем яе да кіпеню. У вагонь кладзем ламы, распальваем іх дачырвана. Тады кожны на сваёй

*(працяг на 8-й бачыньцы)*

# Ліст у Рэдакцыю

## „БЕЛАРУС"кая „ПРАВДА"

Глыбока Паважаны Спадар Доктар!

(1) У газэце *Беларус*, што выдае БАЗА пад старшынствам Антона Шукелайца, за месяц сакавік 1984 году, была надрукавана „правда" такога характару, што, нібы, „Архіепіскап Мікалай" склікае „Сабор БАПЦ" сёлета ў Гайленд Парку 26 і 27 травеня.

Аднак, у гэтай „Беларус"кай „Правде" не надрукавана была іншая праўда, а гэта, што былы Архіяпіскап Мікалай сёньня ёсьць разстрыжаны й ён больш ня мае ніякага духоўнага сану, што ён ня можа й ня мае права склікаць ніякага Сабору БАПЦ, й што Сабор БАПЦ ужо скліканы легітымнымі ўладамі царквы на гэты час у Англіі, а не ў Гайленд Парку.

(2) Падобная „правда" друкавалася ў „Беларус"кай „Правде" за люты, 1984 году, дзе разстрыжаны былы япіскап тытулуецца ня толькі як „Архіепіскап", але таксама й як „Першагерарх БАПЦ" і дзе пішацца, што „Архіепіскап Мікалай і Кансысторыя БАПЦ пастанавілі, 29 сьнежня 1983 году, зьняць Мітрафорнага Пратаярэя а. Васіля Кендыша з пасады Сакратара Кансысторыі БАПЦ..."

Ізноў у сваёй „Правде" БАЗА плянована „забылася" ўспомніць і надрукаваць іншую праўду, што былы Арх. Мікалай, цяпер Міхаіл Мацукевіч, і ім створаная новая „кансысторыя" (кажуць Мацучковая) нічога супольнага із БАПЦ ня маюць і йхнія „зьніманьні з пасады" ніякай вартасьці ня маюць.

(3) Той хто чытае *Беларуса* амаль у кожным нумары можа заўважыць няпраўду падобнага тыпу. На канец трэба зазначыць, што пературварэньне газэты *Беларус* у аднобаковы друкаваны ворган адшчэпніцкага руху, у газэту якая ня толькі бароніць адшчэпніцтва, але й сьведама фальшуе й пературварае факты для сваe карысьці, выклікае вялікі нясмак і ёсьць зьявішчам варожым для свабоднага чалавека, бо за гэтым хаваецца цэнзура кантралёванай прэсы — кардынальны вораг усёй людзкой і чалавечай свабоды й вольнасьці.

— *Прозьвішча ведамае рэдакцыі.*

Прадаецца маленькі
*Ангельска-Беларускі Разгаворнік з Вымовай*
Цана 3 даляры з перасылкай.
4 даляры — паветранай поштай.
Basil Kosarou, 1105 East 25 St., Erie, Pa. 16503, USA

## ДЭЛЕГАТЫ ВЫБРАНЫЯ НА САБОР

26-га лютага г.г. адбыўся агульны перавыбарчы сход парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Парафіяльная Рада была ў аснаўным перавыбраная зь некаторымі зьменамі функцыяў. Др. Р. Гарошка быў выбраны на старшыню, а папярэдні старшыня, Сп. Курыла, застаўся скарбнікам. Таксама былі выбраныя дэлегаты на 3-ці Сабор БАПЦ, што адбудзецца ў Манчэстары 26—28 травеня 1984 году.

Згодна інфармацыяў, старшыня Парафіяльнай Рады прыходу Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку, Сп. Лосік, склікаў таксама ў лютым агульны сход свае парафіі й былі выбраныя дэлегаты на Сабор у Манчэстары.

Як падае *Беларускі Голас*, парафіяне прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронце пад багаславенствам а. Максіма Таўпекі, зьехаўшыся на парафіяльны сход, выбралі дэлегатаў на Сабор у Мачэстары.

# На Крыжовай Дарозе

*(працяг з 7-й бачынкі)*

дзялянцы распалены лом забівае кувалдаю ў зямлю, а ў выпаленыя ім дзіркі льле кіпень. Ад такое апэрацыі ў гэтым месцы зямля трохі адтайвае, і мы зноў б'ем тут клінамі й кіркамі. За дзень паўтараем гэтак шмат разоў.

Бяда, калі натрапіш на большы камень. Выбіць яго клінам, ломам ці кіркаю нельга. Трэба калупаць і адкопваць зямлю вакол яго, а ўжо потым з дапамогаю сяброў неяк цэлы выцягнуць і адкаціць на бок.

Так працуем ад 7-ае гадзіны раніцы да 5-ае вечара. І хоць працуем без перапынку; стараемся, як толькі можам; выбіваемся із апошніх сілаў, каб дастаць поўную, „неабрэзаную" „пайку" хлеба, — нормы выканаць ня можам. Ні я, ні хто іншы. Выканаць — немажліва! А тымбалей сёньня, калі здарыўся трагічны выпадак, які моцна ўсіх нас усхваляваў.

Блізка канца працы Юрэвіч тачкаю адвозіў ад катлавану зямлю. Не ад'ехаў і колькіх мэтраў, як, разам з тачкаю, паляцеў у сьнег. Мы зьдзівіліся, што ён не падымаецца. Да яго пабег „бацька", а за ім — старшы канваір. Было падобна, што Юрэвіч ляжаў мёртвы. Але канваір пачаў правяраць, ці ня прыкінуўся ён мёртвым, каб пазьней уцячы зь лягеру. Прыставіў да твару Юрэвіча штых і скамандаваў:

— А ну, притворник! Давай, подымайся!

„Притворник" не падымаецца.

Канваір штурхнуў яго колькі разоў нагою.

„Притворник" ляжыць нярухома.

Толькі тады канваір кінуўся да тэлефону.

Мы ўжо зьбіраліся йсьці здаваць інструмэнты, як да катлавану падкаціў вазок. Зь яго выйшаў начальнік Санчасьці Залкінд. Падыйшоў да цела Юрэвіча, патаргаў яго наском валёнка, пастаяў. Потым нахіліўся над целам, чыркнуў запалку й паднёс яе да застылых вачэй. Зрэнкі ў іх ня рушыліся. Ён сьцьвердзіў сьмерць ад сардэчнага ўдару й ад'ехаў.

Транспарту забраць адсюль цела нябожчыка няма. Брыгада сама павінна даставіць яго ў лягер. Таму ў складзе інструмэнтаў мы выпрасілі дошку і вяроўку. Дошку расьпілавалі на два роўныя кавалкі, злажылі іх побач, злучылі папярэчкамі. Да папярэчак прымацавалі канец вяроўкі.

На зьбітыя дошкі мы перанесьлі цела Юрэвіча. Самі пастроіліся ў два рады, і кожны аднэй рукою ўзяўся за вяроўку. Раздалася каманда канвою, і мы пацягнулі нябожчыка ў лягер.

### Выхадны дзень

Агульнага выходнага дня для ўсіх вязьняў у лягеры няма. Усе 7 дзён тыдня тут працоўныя, але кожная брыгада мае ў тыдні адзін дзень, вольны ад працы на будаўніцтве: адны брыгады — у панядзелак, другія — аўторак... а некаторыя і ў нядзелю.

Выхадны дзень афіцыйна ўважаецца за дзень адпачынку. У запраўднасьці-ж адпачынку нам не даюць. Уставаць мы мусім з усімі а 5-ай гадзіне начы. Ня толькі таму, што гоман, крыкі, рух тых, што йдуць на працу, нас будзяць; яшчэ й дзеля таго, каб не праспаць сьнеданьня.

Пасьля сьнеданьня, як працуючыя брыгады пакінуць барак, мы кладземся на нары крыху паляжаць — адпачыць ці паспаць. Аж тут раздаецца каманда ўзводнага:

— А ну давай, берись за работу!

Калі хто ўжо заснуў, ён хутка падымае яго з нараў.

Мы становімся ў строй, і ўзводны тлумачыць нам нашую працу. Наўперад мы павінны чысьціць у бараку падлогу. Адным ён выдае мётлы падмятаць яе, другім — вёдры насіць у барак ваду, трэцім — дзеркачы шараваць падлогу, аблітую вадою, чацьвертым — анучы й вёдры мыць падлогу, зьбіраць зь яе ваду й выціраць насуха.

Працуем мы не сьпяшаючыся, бо ведаем: калі скончым гэтую працу, нам дадуць другую. Кожны раз — іншую.

Прошлае начы йшоў сьнег. Уся вуліца й дарожкі да яе з баракаў, з вуліцы да кухні, складаў, адміністрацыйных і санітарных будынкаў завалены сьнегам. Сёньня нам выдаюць драўляныя лапаты й мётлы чысьціць сьнег. Сьпярша — каля свайго бараку, тады — вуліцу й дарожкі ад яе да тых іншых будынкаў.

Так кожны выхадны працуем у лягеры 4—5 гадзінаў.

Апрача таго, на гэты дзень мы адкладаем розныя свае справы: памяняць, палатаць ці направіць штось з вопраткі ці абутку, схадзіць да лекпома, адведаць сяброў... і самае галоўнае — напісаць ліст.

Ліставаньне лягерніка кантралюецца аддзелам цэнзуры Опэрчасьці. Туды з пошты дастаўляюцца ўсе лісты, адрасаваныя ў лягер. Цэнзары іх адкрываюць і чытаюць. Адны лісты яны зусім канфіскуюць, у другіх замазваюць паасобныя словы ці сказы й ставяць штэмпэль „проверено". Толькі з гэтым штэмплем ліст у вадкрытым канвэрце накіроўваецца ў роту да адрасата.

Зь лягеру нам дазволена пасылаць адзін ліст у месяц. Некаторыя гэтага права ня маюць: ці паводля прысуду („без права переписки"), ці часова — на паўгода або на год за якуюсь лягерную правіну, паводля пастановы Опэрчасьці. Ёсьць і такія, што самі ня пішуць лістоў, бо ня маюць каму пісаць: пераважна гэта „раскулачаныя" сяляне, якія ня маюць адрысу свае сям'і, ня ведаюць, куды яе выслалі.

Кожная рота мае свой сталы дзень у месяцы для здачы лістоў ротнаму. Калі ты не скарыстаў гэтага дня, чакай свайго дня ў наступным месяцы. На „вячэрняй паверцы" ротны ўсю пачку лістоў здае „дежкому", а той адносіць іх у цэнзуру. Цэнзура вымагае, каб канвэрт ліста быў адкрыты, а на нутраным баку ягонага трохкутнага адвароту было напісана тваё імя, прозьвішча й № роты.

Ліст трэба пісаць толькі парасейску — коратка, ясна й нічога дрэннага пра лягер. Іначай твой ліст у лепшым выпадку цэнзар выкіне ў кош, у горшым — перадасьць у сьледчы аддзел Опэрчасьці, які можа пачаць супраць цябе новую справу.

Наш дзень для здачы лістоў — на наступным тыдні. Таму ізноў адкладаць яго на пазьней я не магу. Мушу абавязкава пісаць сёньня. Але пісаць ліст у мяне няма паперы. Давядзецца йсьці ў КВЧ, прасіць у Высоцкага.

КВЧ займае цэлы барак каля лягернае брамы. У ім, апрача канцылярыі для ўрадоўцаў гэтае ўстановы, у бальшыні г.зв. „воспитателей" — вялікая саля, дзе 1—2 разы на год бывае кінасэанс ці канцэрт мастацкай самадзейнасьці. Асобны пакойчык — рэдакцыя лягернай газэты „Перековка" (орган 2-га аддзяленьня ВЛОН ОГПУ). Гэта — дзьве балонкі невялікага фармату, адбіваная на шклографе. Ні Лантас, ні Насеньнік, ні Кучын і ніхто іншы з маіх сяброў ніякага ўдзелу ў ёй не бяруць. Ды й наагул кажуць, што амаль усю яе, „ад коркі да коркі", піша й адціскае сам рэдактар — малады невядомы расейскі паэта. У газэце — вернападданыя, лёкайскія вершыкі й артыкульчыкі, у якіх праслаўляецца ГПУ, каторае „героично" „трудом" „перековывает" „преступников" на „честных" грамадзянаў СССР. Газэта выходзіць раз на тыдзень і нікім ня чытаецца.

Заходжу ў чытальню. Тут газэты, часапісы, кніжкі — толькі расейскія. Пакой, як і заўсёды, пусты. Адзіныя сталыя дзяжурныя тут — Сталін, Ягода й М. Горкі на партрэтах.

Высоцкі дае мне паперу й прапануе пісаць тут. Ёсьць сталы з лаўкамі, ручкі, чарніла. Я выбіраю месца й саджуся.

Напачатку пішу звычайны зваротак да бацькоў „Мои дорогие..." і г.д. Тады спыняюся. А што пісаць далей? Падымаю галаву й думаю. Ды ня надта думаецца: перашкаджаюць сьцены. Вось паглядваюць зь іх Ягода й Сталін. Паглядваюць, нібы сочаць за табою — пра што ты пішаш, пра што думаеш... Ну, напішу яшчэ заўсёднае „Я жив и здоров". А далей? Мо напісаць пра сьмерць Юрэвіча? Цэнзура гэта напэўна выкрэсьліць. Зноў-жа: бацькі мае Юрэвіча ня ведаюць. Я зноў адрываю вочы ад паперы, каб думаць... а з-пад Ягоды, на сьцяне, бы знарок — пагрозьлівы лёзунг: „ВЧК-ОГПУ — меч пролетарской диктатуры". Пільнуйся, раб Божы, каб гэты меч не адсек табе галавы!.. Пра што-ж пісаць? Адварочваю галаву ад Ягоды й мяча да другое сьцяны, а там, з-пад Сталіна — таксама лёзунг: „Выполним пятилетку в четыре года"... Не! Ніколі болей я ня сяду тут пісаць. Лепей — у сваім бараку.

Мае разважаньні перабіў скрып дзьвярэй. У чытальню заходзіць яшчэ адзін „чытач". Гэны прыпілнаваў, калі стары й глухаваты Высоцкі адыйшоўся ў дальні кут, тады хуценька рвануў жмут аркушаў з кнігі й сунуў іх у кішэню. Папера да махоркі на пару дзён здабыта.

Із КВЧ мы выходзім разам. Ужо вяртаюцца брыгады з працы, і на кухні пачалі выдаваць абед.

*(далей будзе)*